



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

1 мая 2020 года №18 (1305)

18+


# Як зберагчы псіхіку ў пандэмію



**Загадчык Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера Аляксандр Бажко – пра тое, як перажыць перыяд пандэміі самім і дапамагчы блізкім**

старонка 20

Фота Настассі УТКІНАЙ.

## Віншуем з Днём працы!

ISSN 1991–7155

Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

## Пасля юбілею

**У гэты няпросты час «Рэгіянальная газета» адзначыла свой 25-гадовы юбілей. Не было планаваных урачыстасцяў, сустрэч з чытачамі і аўтарамі. Але дзень нараджэння газеты мы сустрэлі ў святочным настроі.**

Дзякуй нашым чытачам, аўтарам, рэкламадаўцам, без якіх немагчыма ўявіць ніводнага выпуску газеты, ніводнага дня сайта «Рэгіянальнай газеты».

Не было б гэтых людзей, не мела б ніякага сэнсу рабіць тое, што мы робім штодня.

Дзякуй усім, хто даслаў і працягвае дасылаць свае віншаванні калектыву рэдакцыі. Дзякуй калегам, якія падзяліліся цёплымі словамі ў наш адрас. Мы разумеем, што ацэнка нашай штодзённай працы абавязвае і далей руліцца аб тым, каб заставацца блізкімі людзям, сярод якіх жывём.

Мы ўступілі ў другую чвэрць стагоддзя, якое пачалі адмяраць у далёкім ужо 1995 годзе. Упэўнены, што тыя традыцыі, якія склаліся ў папярэднія гады, будуць толькі ўмацоўвацца. Мы застаёмся вернымі праўдзе і асноўнаму, галоўнаму нашаму суддзі – чытачу.

**Ад імя калектыву рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты»
Аляксандр МАНЦЭВІЧ, галоўны рэдактар.**



Малодшы сяржант міліцыі Віктар Вяргеенка, эпідэміёлагі Ганна Пачкоўская і Людміла Сцяцко.

# «Больш за 550 праверак за месяц». Маладзечанская міліцыя і эпідэміёлагі правяраюць людзей на самаізаляцыі

**Раніцай 24 красавіка супрацоўнікі маладзечанскай міліцыі і эпідэміёлагі ў межах горада правяралі людзей, якія знаходзяцца на самаізаляцыі. «Рэгіянальная газета» разам з прадстаўнікамі праваахоўных органаў і эпідэміялагічнай службы высветліла, ці парушаюць маладзечанцы рэжым і што за гэта бывае.**

## Новы час і маршрут кожны дзень

Супрацоўнікі міліцыі сумесна з эпідэміёлагамі правяраюць людзей, якія знаходзяцца на самаізаляцыі, кожны дзень па два-тры разы. Правяраючых называюць мабільнай групай. Кожны дзень мяняецца час і маршрут, па якім ездзіць мабільная група. Гэта звязана з тым, каб праверыць, ці сапраўды людзі знаходзяцца на самаізаляцыі, а не падладжваюцца пад прыезд прадстаўнікоў праваахоўных органаў і эпідэміялагічнай службы.

Людзей правяраюць па дамашніх адрасах, якія тыя абралі сваім месцам самаізаляцыі. Для праверкі неабходны візуальны кантакт, каб пераканацца, што чалавек у дадзены момант знаходзіцца дома.

Людзі ў самаізаляцыі маюць права выходзіць у бліжэйшыя краму і аптэку, а таксама выкінуць смецце. Наведваць гэтыя месцы трэба ў масцы і пальчатках. Кантактаваць з людзьмі – забаронена.

## «Сітуацыя з COVID-19 – гэта не жарт»

Эпідэміёлагі **Людміла Сцяцко** і **Ганна Пачкоўская** 24 красавіка правяралі людзей на самаізаляцыі. Людміла практычна кожны дзень выязджае разам з супрацоўнікамі міліцыі для праверкі. Часам яе замяняе іншы супрацоўнік. Па яе словах, практычна ўсе людзі разумеюць, што парушаць самаізаляцыю нельга.

– Усе разумеюць, што азначае самаізаляцыя. Большасць усведамляюць, што парушаць нельга.

> **Але ёсць і такія, каму можна гэта доўга тлумачыць, а яны ўсё роўна будуць парушаць. Яны не разумеюць, што сітуацыя з COVID-19 – гэта не жарт, – падзялілася Людміла.**

Разам з эпідэміёлагамі ў рэйд выехалі старшы ўчастковы інспектар міліцыі Маладзечанскага РАУС капітан міліцыі **Яўген Кеўра** і міліцыянер роты патрульна-паставой службы міліцыі малодшы сяржант **Віктар Вяргейчык**.

– З пачатку красавіка маладзечанская міліцыя правяла больш за 550 праверак людзей, якія знаходзяцца ў самаізаляцыі, – распавёў Яўген Кеўра.

Міліцыянеры і эпідэміёлагі пры кожнай праверцы носяць маскі, пальчаткі і ахоўныя акуляры.

Эпідэміёлаг распавядала людзям на самаізаляцыі, што яны знаходзяцца на асаблівым рэжыме і што ім не варта пакідаць дом. Толькі – крама і аптэка. Таксама супрацоўнікі ўдакладнялі, да якога чысла чалавек будзе знаходзіцца на самаізаляцыі.

Людміла Сцяцко распавяла, што кантакты першага і другога ўзроўняў у абавязковым парадку здаюць тэсты на каранавірусную інфекцыю. Калі другі тэст паказвае, што чалавек не хворы на COVID-19, то 14-ы дзень самаізаляцыі для яго будзе апошнім. Пасля чалавек атрымлівае даведку ў бальніцы, і рэжым для яго здымаецца. Сцяцко адзначыла, што перасоўванне чалавека на самаізаляцыі адбываецца разам з медыкамі, для яго адмыслова выдзяляюць машыну.

## Ці парушалі рэжым самаізаляцыі ў Маладзечне?

Да людзей, якія знаходзяцца на самаізаляцыі, вынесенае патрабаванне. Гэтыя людзі сапраўды ведаюць, што яны знаходзяцца на самаізаляцыі, што іх павінны правяраць эпідэміёлаг і міліцыянер.

Да адказнасці за парушэнне самаізаляцыі могуць прыцягнуць толькі тых, да каго вынесенае патрабаванне. Пры парушэнні рэжыму самаізаляцыі супрацоўнікі міліцыі складаюць пратакол.

Заканадаўча чалавек парушае артыкул КаАП 23.4 Рэспублікі Беларусі: «Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў». Парушэнне цягне накладанне штрафу ў памеры ад двух да пяцідзесяці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

Далей гэты пратакол разглядае суд.

Па адным з адрасоў, якія праверыла 24 красавіка мабільная група, некалькімі днямі раней супрацоўнікі праваахоўных органаў склалі пратакол аб парушэнні самаізаляцыі.

Як распавёў капітан Кеўра, мужчына выйшаў на вуліцу з кватэры пакурыць і размаўляў у гэты ж час з суседам. Гэта рабіць строга забаронена. На мужчыну склалі пратакол, а суд разгледзеў яго і выпісаў штраф у памеры 30 базавых велічынь.



Тэкст і фота –
**Настасся УТКІНА**
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Медыкі, педагогі, міліцыянеры

## Якіх спецыялістаў шукаюць у рэгіёне ў часы пандэміі

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ
ВАЛОЖЫН

**Мы паглядзелі на сайце Дзяржаўнай службы занятасці, якія арганізацыі і ўстановы нашага рэгіёна прапануюць працу ў сённяшніх умовах.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Медыкі патрэбныя амаль ва ўсіх гарадах рэгіёна.

### Вілейка: чакаюць спецыялістаў у школе, у міліцы

У Даўгінаўскі Дом культуры шукаюць кіраўніка гуртка за 190 рублёў на паўстаўкі. Педагогаў-псіхолагаў чакаюць у Чурлёнскім і Вязынскім вучэбна-педагагічных комплексах. І там, і там – паўстаўкі. Заробак – ад 188 рублёў.

У Вілейскі аўтобусны парк №5 трэба кандуктар, кіроўца аўтамабіля з катэгорыяй D і трактарыст. Найбольш абяцаюць кіроўцу – ад 670, найменш кандуктару – ад 500.

У райаграсэрвіс возьмуць галоўнага агранома. Заробак – ад 700 рублёў. У гаспадарку «Новая Любанія» – трактарыста з заробкам ад 600. Спецыялісты ў сельскай гаспадарцы патрэбныя і ў «Першым Беларускім». Тут чакаюць кіроўцу аўтамабіля, брыгадзіраў, ветэрынарнага доктара, інжынера. Заробкі – ад 400 да 600.

Вялікі спіс – ад Вілейскага РАУС. Самы высокі заробак – ад 1100 рублёў – для начальніка аддзела аховы правапарадку. Спецыялістам і інспектарам – ад 750 да тысячы.

«Зеніт БелАМА» запрашае інжынера, начальнікаў цэха і ўчастка, оптыка-механіка, чысцільшчыка оптыкі, гравёра. Цана пытання – ад 400 да 700.

У аптэкі патрэбныя правізар-аналітык і правізар-тэхнолаг. Абое – на паўстаўкі. Заробак – ад 288 рублёў. Загадчыку аптэчнага склада абяцаюць ад тысячы. У занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі шукаюць доктара-эпідэміёлага і доктара-бактэрыёлага. Заробак – ад 600 рублёў.

### Валожын: патрэбныя медыкі і работнікі ў беларуска-літоўскую фірму

Мае патрэбу ў спецыялістах Валожынская ЦРБ. Возьмуць доктара-спецыяліста, рэнтгенлабаранта і фельчара-лабаранта, медсястру, тэхніка-масажыста. Доктару абяцаюць ад 1100, рэнтген-лабаранту – 920, фельчару – 860, па 560 – медсястры і масажысту. Таксама патрэбны доктар у псіханеўралагічны дом-інтэрнат у Ракаве. Заробак – ад 432 рублёў.

У крамы возьмуць прадаўцоў і загадчыкаў аддзелаў, касіраў, грузчыкаў, дырэктара, прыбіральшчыка, вытворцу мясных паўфабрыкатаў. Заробкі – ад 400 да 1300.

Фірма ў Ракаве, якая робіць станкі і механізаваныя лініі для вытворчасці, набірае шмат супрацоўнікаў – ад дырэктара і намеснікаў да фрэзероўшчыкаў і слесараў. Заробкі – ад 1200 да 2000. Дырэктару і намеснікам трэба ведаць англійскую і літоўскую мовы. Патрэбныя спецыялісты сельскай гаспадаркі ў Вішнева, Сакаўшчыну, Пугачы. Гэта заатэхнік, ветэрынарны доктар, жывёлагадоўца, брыгадзір. Заробкі – ад 400 да 500.

### Мядзел: педагогі ў школу і «Зубраня»

Сельская гаспадарка Мядзельшчыны чакае ветэрынарных дактароў. Заробак на розных прадпрыемствах – ад 550 да тысячы. Лабаранту ў Мядзельскай ветстанцыі прапануюць ад 777 рублёў. У гандаль патрэбныя прадавец, ахоўнік, маркіроўшчык, упакоўшчык. Заробак усім – ад 400.

Мядзельская сярэдняя школа №1 прыме рабочага і повара. Заробкі аднолькавыя – ад 375 рублёў. На паўстаўкі з заробкам ад 187 рублёў возьмуць доктара ў дзіцячы цэнтр «Зубраня». Туды ж бяруць ліфцёра, работніка, які будзе займацца азеляненнем, машыніста экскаватара, кладаўшчыка, медсясцёр. Некаторых не на поўную стаўку. Заробкі – ад 375 да 700.

### Маладзечна: медыцына, «Вялес-Міт» і зноў педагогі

Тут патрэбныя педагогі. Фізрук і выхавальнік – у садок №29. Заробкі ад 375 і ад 380 рублёў адпаведна. У 10-ю гімназію возьмуць матэматыка з заробкам ад 700 рублёў у месяц. Настаўнік пачатковых класаў у школе №12 атрымае ад 800. У сёмы садок возьмуць фізрука, повара і музычнага кіраўніка. Заробак – ад 375 рублёў кожнаму. У гімназію №3 запрашаюць педагога-арганізатара і прыбіральшчыка. І аднаму, і другому – па 375 рублёў. Па столькі ж – электраманцёру і повару, якіх чакаюць у СШ №14, псіхолагу і дэфектолагу, што прыйдуць працаваць у садок у Алёхнавічах.

«Вялес-Міт» возьме прыбіральшчыкаў: аднаго за 500, другога – за 800 рублёў. Вытворца кілбаснай абалонкі тут атрымае ад 800, падсобнік і засольшчык скур – ад 700.

У Маладзечанскую ЦРБ патрэбны памочнік доктара, медсёстры, санітарка. Плацяць ад 375 да 550. Патрэбныя медыкі і ў бальніцу ў Радашкавічах. Дастаткова вакансій у сетцы крамаў «Дабраном». Заробкі – ад 550 да 1200.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



ЛІЧБА НУМАРА

**3 798**



**СТОЛЬКІ ДАШКОЛЬНЫХ УСТАНОЎ АДУКАЦЫІ ПРАЦУЕ Ў БЕЛАРУСІ СЁЛЕТА**

ПАВОДЛЕ BELSTAT.GOV.BY

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 23.04 | 30.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4949 | **2.4361** |
| Еўра | 2.7028 | **2.6502** |
| Злоты, 10 | 5.9770 | **5.8124** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2460 | **3.3066** |
| Грыўня, 100 | 9.2337 | **9.0300** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **22.04** | **29.04** |
| Еўра | 2.6500/2.7500 | **2.6000/2.7300** |
| Долар ЗША | 2.4600/2.5400 | **2.4200/2.5200** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 22.04 | 29.04 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,06 | **23,06** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 8,37 | **8,55** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,50** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **10,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,80 | **16,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,30** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,95** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,00 | **1,85** |
| Агуркі, 1 кг | 3,50 | **2,60** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **6,20** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **0,80** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,90** |
| Капуста, 1 кг | 1,90 | **1,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,70 | **3,50** |
| Морква, 1 кг | 0,60 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **5,90** |
| Радыс, пучок | 3,30 | **2,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| Часнок, 1 кг | 9,90 | **8,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **5,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,30** |
| Вінаград, 1 кг | 8,50 | **6,90** |
| Гранат, 1 кг | 5,00 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Ківі, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Лімон, 1 кг | 8,50 | **6,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,80** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | – | **1,50** |
| Масла, 1 кг | – | **15,00** |
| Сала, 1 кг | – | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | – | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | – | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | – | **3,00** |

## Хлопец выклаў у суполцы «УКантакце» інтымныя фота былой сяброўкі

ВІЛЕЙКА

Пра гэта карэспандэнту расказаў намеснік пракурора Вілейскага раёна **Андрэй Жукоўскі**.

– Маладыя людзі жывуць у адной мясцовасці, у аграгарадку на Вілейшчыне. Яны сустракаліся, а потым пасварыліся. У маладога чалавека засталіся інтымныя фота дзяўчыны. Таксама быў логін і пароль ад яе старонкі ў сацсетках. 27-гадовы фігурант зайшоў на старонку былой дзяўчыны і ў суполцы выклаў яе фотаздымкі, – расказаў намеснік пракурора.

24 красавіка пракуратура накіравала справу ў суд.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Аштрафавалі на 810 рублёў за парушэнне самаізаляцыі

Супрацоўнікі маладзечанскай міліцыі паведамілі «Рэгіянальнай газеце», што жыхар Маладзечна атрымаў штраф за парушэнне самаізаляцыі.

Прыкладна тыдзень таму мужчына парушыў рэжым самаізаляцыі. Ён выйшаў у двор з кватэры, каб пакурыць і паразмаўляць з суседам.

Аднак гэта забаронена. Людзі на самаізаляцыі могуць выйсці толькі ў бліжэйшыя краму і аптэку, а таксама выкінуць смецце.

23 красавіка суд разгледзеў справу і аштрафаваў мужчыну на 30 базавых велічынь (810 рублёў).

Нагадваем, што за парушэнне самаізаляцыі чалавека прыцягваюць да адказнасці па артыкуле 23.4 КаАП Рэспублікі Беларусі: «Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў».

Парушэнне цягне накладанне штрафу ў памеры ад двух да пяцідзесяці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

**Настасся УТКІНА.**

## На пілараме скралі дошкі. Падазраюць былога работніка

МАЛАДЗЕЧНА

У міліцыю Маладзечна звярнуўся 47-гадовы гараджанін, дырэктар аднаго з мясцовых дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, паведамляюць у РАУС.

Мужчына расказаў, што з пілорамы выкралі шмат абразных дошак. Следча-аператыўная група ўстанавіла, што выкрадзеная маёмасць захоўвалася паблізу цэхаў на тэрыторыі прадпрыемства, доступ на якую свабодны для чужых. Праваахоўнікі агледзелі месца здарэння і заўважылі сляды пратэктара аўтамабіля, на якім, верагодна, вывозілі дошкі.

Міліцыя ўстанавіла дачыненне да крадзяжу піламатэрыялаў 41-гадовага беспрацоўнага жыхара Маладзечна. Мужчына раней працаваў на пілараме майстрам. У канцы мінулага года звольніўся. Падазраваны прызнаўся ў крадзяжы.

Паводле яго слоў, схему прадумаў загадзя. Фігурант ведаў, што апошнім часам у цэхах часова прыпыненая праца. На аб'ект мужчына прыязджаў бліжэй да вечара на асабістым аўтамабілі з прычэпам, абследаваў участак, складаў дошкі і з'язджаў.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку высветлілі, што падазраваны краў драўніну для будаўніцтва тэрасы, піламатэрыялы вывозіў да сябе на ўчастак. Міліцыянеры канфіскавалі каля 450 штук абразных дошак розных памераў. Іх кошт ацанілі ў 875 рублёў. У дзеяннях фігуранта праваахоўнікі ўгледзелі прыкметы складу злачынства, прадугледжанага артыкулам 205 КК Рэспублікі Беларусь «Крадзеж». Раней мужчына да крымінальнай адказнасці не прыцягваўся.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Каб спадабацца дзяўчатам, скакаў па капоце чужой машыны

АШМЯНЫ

За гэта маладога чалавека з Ашмянаў нядаўна асудзілі на два гады абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу. Прысуд уступіў у законную сілу.

Здарэнне адбылося днём 22 лютага. 21-гадовы жыхар Ашмянаў залез на аўтамабіль «Мазда» і падскочыў некалькі разоў. Хлопец пашкодзіў лакафарбавае пакрыццё капота, а таксама дэфармаваў дах. Сума матэрыяльнай шкоды пацярпеламу склала 450 рублёў.

Устаноўлена, што супрацьпраўныя дзеянні малады чалавек учыніў, каб зрабіць ураджанне на дзяўчат, што былі з ім. Дзеянні хлопца былі кваліфікаваныя па частцы 1 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

# Віляйчук парушыў самаізаляцыю і паехаў на рыбалку

### За гэта ён заплаціць больш за тысячу рублёў

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта карэспандэнту расказаў начальнік Вілейскага РАУС Аляксандр Бяндасаў.**

Па яго словах, жыхар Вілейкі, які знаходзіцца на самаізаляцыі, без неабходнасці пакінуў месца жыхарства і з'ехаў на рыбалку. 21 красавіка яго прыгаварылі да адміністрацыйнай адказнасці. Парушальнік заплаціць штраф сорак базавых велічынь – 1 080 рублёў.

Аляксандр Уладзіміравіч адзначыў, што гэта пакуль адзіны выпадак на Вілейшчыне. У большасці людзі адказна ставяцца да правілаў самаізаляцыі.

Начальнік міліцыі звяртае ўвагу, што ад 10 красавіка ў Беларусі дзейнічае пастанова Савета Міністраў ад 2020/04/08 №208 «Аб увядзенні абмежавальнага мерапрыемства».

Адзін са спосабаў барацьбы з распаўсюджаннем каранавіруса – самаізаляцыя, на якую адпраўляюць кантакты першага ўзроўню, а пры наяўнасці рэспіраторных сімптомаў, і другога. Работнікі Вілейскага РАУС штодня правяраюць грамадзян, якія знаходзяцца ў самаізаляцыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота fainaidea.com.

Цяпер віляйчук мусіць заплаціць за рыбалку.

## Жыхар Ракава з сябрам са сталіцы кралі будаўнічы інструмент

ВАЛОЖЫН

Аператыўнікі крымінальнага вышуку Мінскага РАУС затрымалі 25-гадовага мінчука і 20-гадовага жыхара Ракава. Маладыя людзі пранікалі на прыватныя ўчасткі з прыватнымі будоўлямі і кралі інструмент.

Днём яны выязджалі «ў разведку» па Мінскім і Валожынскім раёнах. Уначы вярталіся, зразалі замкі, узломвалі дзверы і забіралі ўсё, што хоць трохі мае каштоўнасць: ад будаўнічых рулетак да электраінструмента і генератараў.

Вядома, што выкрадзенае мінчанін спрабаваў збыць па заніжаных цэнах знаёмаму прадпрымальніку, які займаецца продажам і здачай у арэнду будаўнічага інструмента. Але той запатрабаваў дакументы, якія пацвярджаюць легальнасць набыцця.

Пакуль зламыснікі разважалі, што рабіць далей, аператыўнікі выйшлі на іх і затрымалі.

У затрыманых знайшлі выкрадзеную маёмасць на суму больш за дзесяць тысяч рублёў. Частку інструмента яны паспелі прадаць праз інтэрнэт.

Затрыманыя раней не судзімыя. Цяпер яны знаходзяцца ў ізалятары часовага ўтрымання. Следчыя пачалі крымінальныя справы.

**Паводле МУС.**

## Пакуль гаспадыня была ў сталіцы, згарэў яе дом

МЯДЗЕЛ

Пра пажар у вёсцы Гарадзішча Княгінінскага сельсавета мядзельскім выратавальнікам паведамілі 28 красавіка каля 22:00.

Калі выратавальнікі прыехалі, дом гарэў адкрытым полымем. Дах праваліўся ўнутр. Акрамя даху згарэлі сцены, перакрыцці, маёмасць.

Па словах інспектара групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага РАНС **Ірыны Карапецян**, падчас пажару гаспадыня дома была ў Мінску. Яна паехала ў сталіцу ў той жа дзень, 28 красавіка.

Мяркуюць, што прычынай пажару стала парушэнне правілаў карыстання печкай.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Заплацяць больш за дзвесце рублёў – за трох плотак

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

7 красавіка на рацэ Вілія, ля вёскі Плёсы на Маладзечаншчыне, затрымалі двух мужчын. Аднаго – з Маладзечна, другога – з Вілейшчыны. Адзін лавіў рыбу сеткамі і паспеў ужо злавіць трох плотак. Другі быў на беразе з пакетам, у якім ляжалі рыбалоўныя сеткі.

У дачыненні да фігурантаў склалі адміністрацыйныя пратаколы за лоўлю рыбы забароненымі прыладамі і спосабамі і за знаходжанне на адлегласці да аднаго кіламетра ад берагавой лініі рыбалоўных угоддзяў з забароненымі прыладамі лоўлі.

Шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю ў выніку незаконнай здабычы трох плотак, склала дзевяць базавых велічынь, або 243 рублі. Пра гэта паведамілі ў Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы раслiннага і жывёльнага свету.

**Аддзел інфармацыі.**

# Актывісты з Мінска прывезлі сродкі абароны для вілейскай ЦРБ

ВІЛЕЙКА

**З актывістам ініцыятывы #ByCovid19 Антонам Матолькам мы пагутарылі па тэлефоне ўвечары 24 красавіка, якраз тады, калі ён ехаў з Бараўлянаў у Вілейку. Антон вёз сабраныя для вілейскіх медыкаў сродкі абароны.**

– Сёння я выконваю ролю перавозчыка. Вязу тое, што змагла сабраць наша каманда для вілейскіх медыкаў. Гэта бахілы, нарукаўнікі, шчыткі, акуляры, пульсометр і іншыя неабходныя медыкам сродкі, – расказаў карэспандэнту Антон.

#ByCovid19 – гэта група ініцыятыўных грамадзян, створаная ў падтрымку медыкаў. Па словах Антона, каманда працуе па ўсёй Беларусі. У іх базе – больш за паўтары тысячы заявак. Каму дапамагчы, вырашае каманда. Звычайна дапамога едзе туды, дзе ачаг захворвання, або туды, адкуль ёсць заяўкі.

Неабходныя медыкам сродкі збіраюць па-рознаму. Ёсць некалькі рахункаў, куды можна пералічыць грошы. Часам нейкія рэчы людзі прыносяць самі.

– Цяпер часцей праблема – нават не грошы, а адсутнасць у аптэках неабходных тавараў, – кажа Антон. – Быў такі выпадак, калі малады чалавек прынёс нам 30 дэфіцытных рэспіратараў.

У актывістаў ёсць свой склад для сродкаў абароны. І, па словах Антона, больш за суткі там нічога не затрымліваецца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечанае Антонам МАТОЛЬКАМ.

Вілейскія медыкі прымаюць дар ад актывістаў.

# Хапае заказаў і сучасных станкоў. Чакаем толькі спецыялістаў

## Чым жыве завод, дэталі якога стаяць на чыгунках замежных краін

**Тут заўсёды рады маладым работнікам, плацяць добрыя грошы. А дэталі прадпрыемства закупляюць на чыгункі Расіі, Туркменістана, Казахстана і краін Балтыі. Усё гэта – пра Маладзечанскі электрамеханічны завод, які летась адзначыў 25-годдзе.**

МАЛАДЗЕЧНА

### Як усё пачыналася

– 19 верасня 1994 года зарэгістравалі завод. Спачатку займаліся вытворчасцю электрамагнітаў для чыгункі і рэгулятараў напружання для чыгуначных пуцявых машын, – прыгадвае першыя гады дзейнасці завода дырэктар **Васіль Чаеўскі**.

Ад 2003-га дэталі з Маладзечна ўжо сталі ў кіруючай апаратуры вагонных запавольвальнікаў. У гэтым жа годзе на заводзе пачалі вырабляць тармазную апаратуру для сартавальных горак на чыгунцы. Сартавальная горка – від чыгуначнага прыстасавання для паскарэння расфарміравання саставаў грузавых вагонаў.

Першую кіруючую апаратуру ВУПЗ-МЭ зрабілі па ліцэнзіі санкт-пецярбургскага інстытута. Пасля ўдасканалілі яе, зрабіўшы на аснове мікрапрацэсара. Гэта была першая мікрапрацэсарная апаратура кіравання вагоннымі запавольвальнікамі ў СНД. У 2005 годзе сваёй апаратурай завод укамплектаваў сартавальную горку станцыі **Мінск**.

### Беларуская чыгунка стала малой для завода

– Хутка Беларуская чыгунка стала для нас малой. Пачалі выходзіць на Расію, – працягвае дырэктар. – Каб атрымаць доступ на расійскі рынак, далучылі інвестараў. І ад 2008 года сталі сумесным закрытым акцыянерным таварыствам з удзелам расійскага капіталу. За гэты час мы распрацавалі новае пакаленне кіруючай апаратуры ВУПЗ-05Э. У 2010 атрымалі адабрэнне Расійскай чыгункі. Каб класіфікаваць адчэпы па вазе, распрацавалі горачны мікрапрацэсарны класіфікатар вагі. Правялі выпрабаванне новай распрацоўкі і ўзаконілі яе на расійскім рынку. Акрамя нашых класіфікатараў, іншых там няма.

У 2009 годзе маскоўскі канцэрн **«Трансмаш»** паставіў перад маладзечанскімі спецыялістамі новую задачу – асвойваць вагонныя запавольвальнікі. У 2010-м на заводзе зрабілі два першыя, выпрабавалі іх на Беларускай чыгунцы.

**А з 2011 года вагонныя запавольвальнікі з Маладзечна пастаўляюць на чыгункі ў Расію, Украіну, Літву, Латвію, Эстонію, Казахстан, Туркменістан.**

Яшчэ адна новая распрацоўка – утрымальнае прыстасаванне. Дзякуючы яму можна замацоўваць саставы, каб яны самастойна не сыходзілі на магістральныя пуці.

Чарговая буйная замова ад Расійскай чыгункі – фотаэлектрычныя інфрачырвоныя прылады, якія кантралююць занятасць і свабоднасць стрэлачнага пераводу. Выпрабаванні на Расійскай чыгунцы паказалі стопрацэнтную надзейнасць прылады пры любым надвор'і.



Фота забяспечанае заводам.

Спецыялісты завода працуюць на сучасным абсталяванні.

### Педалі для тралейбусаў і электробусаў робяць у Маладзечне

Таксама на заводзе выпускаюць дэталі для МАЗа, БелАЗа, Гомсельмаша.

– Каля пяці гадоў супрацоўнічаем з Белкамунмашам. Вырабляем ужо трэцяе пакаленне лічбавых педаляў тормаза і хода на тралейбусы і элетробусы, – працягвае знаёміць з вытворчасцю дырэктар.

Для вагонных дэпо на заводзе робяць стэнды для ўльтрагукавой дыягностыкі колавых пар. Стэнды выкарыстоўваюць падчас рамонту колавых пар грузавых вагонаў. Раней такія прыстасаванні выпускалі для Беларускай чыгункі, але хутка яны пойдуць і ў Расію. Цікавяцца распрацоўкай чыгуначнікі Польшчы і Літвы.

– Праверыць спраўнасць колавых пар – гэта вельмі сур'ёзны момант, ад якога залежыць бяспека руху, – тлумачыць Васіль Чаеўскі.

Распрацавалі комплекс для мыйкі колавых пар. Першы – для Маладзечанскага вагоннага дэпо. Другі, удасканалены, рыхтуюць для вагоннага дэпо ў Оршы.

### Хапае ўсяго. Патрэбныя толькі спецыялісты

Сёлета з'явіўся новы выраб – бэлькава-загараджальнае прыстасаванне для паркавых пуцей сартавальных горак. Яно дазволіць прыбраць з чыгунак рэгуліроўшчыкаў хуткасці адчэпаў. Яшчэ адзін кірунак працы – выраб стальных люкаў інжынерных ніш, дзвярэй, варотаў і нестандартызаванага абсталявання.

На прадпрыемстве хапае плошчы. Дастаткова і сучаснага абсталявання. Ёсць такарныя і фрэзерныя станкі з праграмным кіраваннем, сучасныя газаплазменныя ўстаноўкі раскрою ліставога пракату. А вось маладых адукаваных спецыялістаў часам не хапае. На заводзе будуць рады токарам, слесарам, фрэзероўшчыкам, канструктарам, тэхнолагам.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**

УНП 600238802




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі да Аўдзі-80, 1985 г.в. Т. (8-029) 5024571.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029)6412706, (8-029) 7646646.*

• Масквіч ІЖ 2715 для сябе, можна няспраўны. Т. (8-033) 3537422.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• Участак 25 сотак з трухлявай пабудовай у в. Старыя Баруны Смаргонскага раёна. Т. (8-029) 7754975.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ.** ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

**Бытавая тэхніка**

• Пральная машына-аўтамат Candy. Як новая. Нядорага. Т. (8-033) 6407558.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка Т. МТС (8-033) 6908397, А 1 (8-029) 6938397.*



**Іншае**

• Дзве дзіцячыя ванначкі для купання (па 10 руб.), кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), падаграавальнік для сумесі Philips Avent (40 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), электрычны малаадсос (30 руб.). Маладзечна. Тэл. (8-033) 3668181.*

• Чарапіца керамічная плоская 100 кв. м, вокны на веранду 0,9*1,5 – 3 шт., кацёл для лазні. Вілейка. Т. (8-029) 1057622.*

• **КАМБІКОРМ, ЗБОЖЖА, ВОТРУБ'Е, КРУПЫ** з дастаўкай на дом па Вілейскім раёне. ПП «ВітМа 2007» УНП 690626823. Т. (8-029) 3999466.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Арматуру, вугалок, профіль.Т. (8-029) 3068662.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Сядзелка для пажылой жанчыны. Ст. Ашмяны Ашмянскага раёна. Усе пытанні па тэлефоне (8-029) 2504982.

# Як беларусы раней адзначалі Радаўніцу і як яна прайшла сёлета на плябанскіх могілках

**28 красавіка карэспандэнты «РГ» паехалі на плябанскія могілкі, што на мяжы з вёскай Краснае ў Маладзечанскім раёне, каб праверыць, ці пайшлі людзі на могілкі падчас каранавіруснай пандэміі.**

А таксама распавядаем чытачам, як раней адзначалі Радаўніцу беларусы.

### Святары, людзі без масак

На плябанскіх могілках на Маладзечаншчыне людзей было няшмат. З цягам часу адны прыязджалі, а іншыя з’язджалі. Традыцыйна ў Плябань на магілы да сваякоў прыязджаюць 6 мая, таму натоўпу людзей на Радаўніцу там не было.

На могілках знаходзіліся двое святароў. Адзін з іх – іерэй Мікалай з Красненскага прыходу.

**Большасць людзей прыбіралася на магілах, некаторыя мянялі кветкі. Кветкі можна было купіць у двух месцах каля могілак. Значная колькасць людзей і святары знаходзілася на могілках без масак.**

### Што такое Радаўніца

Радаўніца (ці Радуніца, Радуніцкія дзяды, Вялікдзень мёртвых) – вясновае свята язычніцкага паходжання, звязанае з культам продкаў, дзень памінання памерлых. У беларусаў было вядома таксама пад назвай «сняданне над радзіцелямі».

Паходжанне слова «Радаўніца» выводзяць ад розных слоў: ад ведыйскага **radanh** (ахвярадаўства), літоўскага **rauda** (галашэнне), ад агульнаславянскіх слоў **«род»**, **«радзіцца»**, ад імя міфалагічнага бога **Рады (Рода)** і інш.

У некаторых мясцінах Радаўніца дзялілася на «жывую» (у панядзелак маліліся за жывых) і «мёртвую» (у аўторак паміналі памерлых).

Памінальны абрад адбываецца ў аўторак пасля велікоднага тыдня. Родзічаў памінаюць спачатку ў царкве, потым на могілках, дзе прыбіраюць магілы блізкіх, рассцілаюць на насыпах абрусы для памінальнай трапезы, якая нагадвае старажытную язычніцкую трызну.

Гаспадыні клапаціліся, каб у гэты дзень нагатаваць як мага больш страў – так званыя «грыбкі» (тоўстыя бліны з пшанічнай мукі на масле і яйках), пірог з яйкамі, грэчкавыя бліны, мёд, тварог, кілбасы, смажанае мяса, вяндліна і інш. Крыху стравы і гарэлкі пакідалі «для мёртвых». У размовах успаміналі нябожчыкаў, часта гучалі галашэнні. Рэшту памінальных страў раздавалі жабракам.

Правядзенне Радаўніцы заканчвалася бяседай дома ці ў карчме, згодна з народнай прыказкай: «На Радаўніцу да абеду пашуць, па абедзе плачуць, а ўвечары скачуць».

### Як раней праходзіла Радаўніца ў розных мясцінах

У некаторых мясцінах Палесся Радаўніца падмянялася так званым «Наўскім вялікаднем» (Вялікаднем мёртвых), які адбываўся ў чацвер велікоднага тыдня. На ўсходзе Беларусі функцыю Радаўніцы выконвалі летнія (траецкія, сёмушныя) дзяды. У некаторых рэгіёнах Радаўніцу спраўлялі толькі жанчыны. Таксама ў некаторых беларускіх мясцінах Радаўніцу называлі «грэць бацькоў». У памяць кожнага памерлага разводзілі вогнішча. Праз вогнішча скакалі, на іх пяклі яешню.

Яшчэ ў пачатку 20 стагоддзя на Чэрвеньшчыне і Дзісеншчыне захоўваўся звычай – перш чым ісці на магілы сваіх блізкіх, людзі заходзілі на курганныя могільнікі (магілы сваіх далёкіх продкаў). Курганы падсыпалі, на іх вяршыні закопвалі пятку афарбаванага яйка і пакідалі крыху ежы. Бывала, разводзілі вогнішча або высыпалі на вяршыні курганоў вугольле, прынесенае з печы з дому. Гаршчок, у якім неслі вугольле, разбівалі ўшчэнт. Археолагамі на курганах 11-12 стагоддзяў зафіксаваныя сляды памінання продкаў у часы позняга сярэднявечча і да 20 стагоддзя.



Людзі на магіле блізкіх.

На Лепельшчыне яшчэ ў канцы 19 – пачатку 20 стагоддзя ў гэты дзень моладзь прыбірала курганы зелянінай і потым вадзіла карагоды з песнямі. Аб колішніх святкаваннях Радаўніцы на курганах сведчаць назвы курганных могільнікаў – Карагодзіца, Гуслішчы, Цымбалы, Дудкі.

На тэрыторыі дрыгавічоў (частка Брэсцкай, Гомельскай, Гродзенскай і Мінскай абласцей) захаваўся звычай навальваць на свежую магілу дубовую калоду – прыклад, і пазней толькі на Радаўніцу побач ставілі высокі драўляны крыж.

**На Радаўніцу ў многіх мясцінах адбываліся кірмашы. Гандлявалі пераважна пернікамі, абаранкамі, гарэлкай, півам. У гэты дзень забаўляліся біццём яек. Яйкі крыжападобна качалі па магілах.**

Правядзенне ўсіх рытуалаў накіроўвалася на тое, каб залагодзіць душы продкаў, заслужыць іх спрыянне.

З днём правядзення Радаўніцы звязваліся разнастайныя народныя назіранні і павер’і. Калі яе прыход супадаў з маладзіком – чакалі добрага ўраджаю; калі ж Месяц быў у апошняй квадры – прадказвалі няшчымніцу. На Радаўніцу, звязаную з культам нябожчыкаў, не пажадана было нічога садзіць і сеяць, але ў панядзелак на «жывую Радаўніцу» гэта, наадварот, было пажадана рабіць.

У Свіслацкім раёне кідалі тры разы яйка цераз гумно так, каб яно не разбілася, тады збожжа будзе добра захоўвацца. У народзе верылі, што гаспадыня, якая першая згатуе вячэру, з дапамогай бога і душ памерлых першая скончыць жніво. Той, хто першы з’явіцца на Радаўніцу на могілкі, пачуе ад крэўных нябожчыкаў таемную параду, як здабыць схаваны скарб.

Правядзенне абрадавых рытуалаў на Радаўніцу калісьці было накіраванае на тое, каб залагодзіць душы продкаў, заслужыць іх спрыянне ў жыцці і ў гаспадарцы.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА па матэрыялах кніг «Беларуская міфалогія» (аўтар – Сяргей Сянько) і «Беларуская энцыклапедыя». Фота аўтара.**

## Папраўка

**У мінулым нумары ў інтэрв’ю галоўнага рэдактара Аляксандра Манцэвіча «Працуем, каб людзі адчулі сябе часткай супольнасці» закралася памылка.**

Там, дзе згадваюцца людзі, з дапамогай якіх пачалася 25 гадоў таму «Рэгіянальная газета», пасля імя **Паўла Карпіновіча** павінны быць названы наш паплечнік і сябар **Ігар Вейс**. Узгаданы ж быў яго брат Віктар.

І Ігар, і Віктар прычыніліся да гісторыі нашага выдання. Але напачатку быў сапраўды Ігар, чые ідэі, а не толькі сродкі, дапамаглі і дапамагаюць сёння рабіць нашу газету такой, якой вы яе бачыце. Хаця яго няма з намі ўжо амаль сем гадоў.

Просім прабачэння ў родных і блізкіх Ігара і Віктара за дапушчаную ненаўмысна памылку.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**



Ігар Вейс.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

# Пандэмія ўжо паўплывала на працу ў рэгіёне. Чаго чакаць далей

## Гутарым з віляйчанкай, маладзечанкай і экспертамі

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Па дадзеных экспертаў, пандэмія каранавіруса пацягнула за сабой крызіс рынку працы. Ці адчулі гэта жыхары нашага рэгіёна? Размаўляем з жыхарамі Маладзечна, Вілейкі і экспертамі.**

### Вольга, адміністратар у кафэ: пакуль не бачу выйсця

Віляйчанка **Вольга** некалькі год працавала ў кавярні ў Мінску. Працы пасля заканчэння эканамічнага каледжа ні ў родным горадзе, ні ў сталіцы яна не знайшла. Пайшла ў афіцыянткі.

– Заробкі былі нядрэнныя. Плюс чаявыя. Я жыву адна, сям'і пакуль няма. Таму магла і дапазна працаваць, і нават выхадныя не браць на працягу некалькіх тыдняў. Стамлялася, канешне. Але ж і грошы былі добрыя. Сама наймала аднапакаёўку ў Мінску. На розныя дзявочыя патрэбы таксама хапала. У гаспадыні нашай кавярні ёсць яшчэ гасцявы домік пад Мінскам. Па суботах і нядзелях часта ездзілі туды, абслугоўвалі карпаратывы і вяселлі. За такія дні плацілі больш.

Апошнія сем месяцаў Воля стала працаваць адміністратарам. Працы стала больш – прыняць бронь на столікі, арганізаваць працу афіцыянтаў, калі трэба, то і вырашыць канфлікты, што часам узнікаюць паміж работнікамі і наведнікамі. Аднак і ад працы афіцыянткі дзяўчына не адмаўлялася. Калі была магчымасць – падпрацоўвала.

– Да новага года яшчэ ўсё было добра. У другой палове снежня абслужылі навагодніх карпаратывы, па выхадных – моладзь, як заўсёды, тусавалася ў нас. А вось бліжэй да вясны наведнікаў стала значна менш, людзі пачалі адмяняць замовы на буйныя ўрачыстасці. Канешне, гэта адразу адбілася на выручцы, на заробках. У першы тыдзень красавіка гаспадыня сабрала нас усіх і сказала, што зачыняемся. Папярэдне – да лета, – дзеліцца Вольга.

Пакуль дзяўчына жыве ў Мінску на наймалай кватэры. На тыя грошы, якія атрымалася адкласці. На кватэру даюць бацькі.

– Пакуль не бачу выйсця. У Вілейку ехаць не хацела б. Уладкавацца на новую працу ў Мінску не магу, бо не ведаю, як будзе развівацца сітуацыя. А раптам летам наша кафэ сапраўды адчыніцца. Мне ж хацелася менавіта туды вярнуцца, – падсумавала Вольга.

### Марыя, займаецца анлайн-продажамі: ратуюць цацкі

Маладзечанка **Марыя** некалькі год працуе на адну расійскую фабрыку. Прадае сувеніры. Жанчына расказала, як і што прадаецца ў час пандэміі.

– Нам не пашанцавала, бо наш галоўны прадукт – турыстычны сувенір. Таму продажы абваліліся. І першы час было вельмі цяжка. Па словах Марыі, на фабрыцы першапачаткова пачыналі з матрошак, пасля дадаліся іншыя сувеніры. Іх набывалі турысты з розных краін свету, расказвае Маша.

Скончыўся турызм – скончыўся і продаж сувеніраў. Але фабрыка надала больш увагі сваёй лінейцы цацак і пачалі спрабаваць новыя варыянты продажу – праз інтэрнэт-пляцоўкі. Фабрыка вырабляе драўляныя цацкі і гульні-сортэры па сістэме педагога Марыі Мантэсоры. Па словах Марыі, цацкі іх цяпер і ратуюць, бо турысты сядзяць дома. Дзеці таксама сядзяць дома, але туды ім цацкі і прывозяць.

– Да спакою яшчэ вельмі далёка, працуем з ранку да ночы і спадзяёмся на лепшае. Цяпер цяжка, але я вельмі люблю сваю фабрыку і яе творчасць, так што змагаюся з усяе моцы, каб яе ўратаваць, – дзеліцца суразмоўца.



Пакуль турыстычныя сувеніры не купляюць, фабрыка, дзе працуе Марыя з Маладзечна, прадае драўляныя цацкі.

### Эксперт Кацярына Барнукова: людзі ўжо пачалі эканоміць на адзенні

Пракаментаваць сітуацыю на рынку працы ў Беларусі мы папрасілі акадэмічнага дырэктара цэнтра эканамічных даследаванняў Bereс **Кацярыну Барнукову**.

– І Вольга, і Марыя працуюць якраз у тых галінах, якія найбольш пацярпелі ад каранавіруса. Першымі пацярпелі турызм, гасцініцы і рэстараны. Дадаліся сюды і сферы паслуг, дзе неабходны фізічны кантакт. Па нашых даследаваннях, 52 працэнты беларусаў адчуваюць нявызначанасць у сітуацыі з пандэміяй. А прасяданне даходаў змяншае выдаткі, – кажа Кацярына.

Па словах эксперта, беларусы ўжо ўключылі рэжым жорсткай эканоміі. Не эканомяць пакуль на ежы, медыцыне і камунікацыях – мабільніках, інтэрнэце. А вось адзенне ўжо набываюць мала.

– Пакуль гэта адчуваюць толькі прадаўцы крамаў, але праз некаторы час адчуюць і вытворцы, – перакананая Кацярына. На думку Кацярыны, тыя меры, што прыняў урад, не асабліва палепшаць становішча:

– Ёсць пэўныя паслабленні па падатках і па арэндзе. Але ўявіце сябе гаспадаром нейкай крамы. Вам далі магчымасць не плаціць падаткі і дазволілі пазней заплаціць арэнду. Але ж пакупнікі ад гэтага не з'явіліся. Людзі задумаюцца, ці набываць новую вопратку, калі невядома, што будзе з заробкам у наступным месяцы, а па-другое, няма куды ў ёй пайсці. Пытанне даходаў грамадзян пакуль ніяк не вырашылі. Абмяркоўваюць павышэнне дапамогі па беспрацоўі і даплаты работнікам тых прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў прастоі. Спадзяюся, што гэта ўвасобяць у жыццё.

### Эксперт Сяргей Чалы: у нас месяц адмаўлялі існаванне віруса

Падобнай думкі прытрымліваецца і эканаміст **Сяргей Чалы**. Ён кажа, што крызіс на рынку працы ўжо апанаваў Еўропу. Каля 10-15 працэнтаў працаздольнага насельніцтва аказалася без працы. Асабліва церпяць у дадзенай сітуацыі транспарт, падарожжы, забавы, сфера паслуг. Крызіс аднолькава б'е і па попыце, і па прапанове.

Краіны, у якіх раней аб'явілі каранцін, атрымаюць больш развітую эканоміку. У нас жа цэлы месяц увогуле адмаўлялі існаванне віруса, таму і падышлі да апошняй фазы.

На думку Сяргея, у дадзенай сітуацыі выйграе бізнес, не звязаны з фізічнымі кантактамі ці звязаны мінімальна. Гэта анлайн-гульні, дастаўка, тавары праз інтэрнэт.

Атрымліваецца, маладзечанка Марыя і яе калегі таксама могуць атрымаць выгаду ад дадзенай сітуацыі.



Тэкст і фота –
Аксана
ЯРАШОНАК
aksanayarashonak
@gmail.com
(8-0176)
53-78-06

# Каардынатар ААН у Беларусі патлумачыла, чаму важна заставацца дома

**Заява Іааны Казана-Вішнявецкі, Пастаяннага каардынатара ААН у Беларусі.**

Нягледзячы на актыўныя намаганні ўрада і міжнародных партнёраў, у цяперашні час мы назіраем у Беларусі эвалюцыю ўспышкі інфекцыі COVID-19, якая характарызуецца ўстойлівай і распаўсюджанай лакальнай перадачай.

**У нядзелю, 26 красавіка, Міністэрства аховы здароўя пацвердзіла больш за 10 000 выпадкаў заражэння COVID-19 у Беларусі. Гэтая колькасць расце ў геаметрычнай прагрэсіі. Успомніце, па стане на 26 сакавіка было ўсяго 86 выпадкаў.**

У дадатак да рашучых захадаў у адказ з боку медыка-санітарных, эпідэміялагічных структур і ўрада, накіраваных на тэставанне, адсочванне і ізаляцыю, у спалучэнні з гераічнымі намаганнямі медыцынскіх работнікаў цяпер настаў час для неадкладных і маштабных мер па ўзмацненні жорсткасці фізічнага дыстанцыявання.

Сусветная арганізацыя аховы здароўя рэкамендуе ўкараненне мер фізічнага дыстанцыявання і перанос усіх масавых мерапрыемстваў.

Акрамя гэтага, СААЗ рэкамендуе ўкараніць магчымасць дыстанцыйнай працы і дыстанцыйнага навучання ў школах, універсітэтах і іншых адукацыйных установах, а таксама прыпыніць працу прадпрыемстваў, якія не аказваюць асноўных паслуг, у тым ліку кафэ, рэстаранаў, гандлёвых цэнтраў.

**СААЗ заклікае скараціць колькасць неістотных перамяшчэнняў, асабліва для груп высокай рызыкі і ўразлівых пацыентаў, што тычыцца паездак за горад, у вёскі і на лецішчы.**

Меры грамадскай аховы здароўя ў маштабах усяго грамадства, накіраваныя на фізічнае дыстанцыяванне, могуць дапамагчы прадухіліць і запаволіць распаўсюджанне віруса. Медыцынскія установы могуць выкарыстоўваць гэты час на тое, каб падрыхтаваць рэсурсы – медыцынскіх работнікаў, ложка-месцы, ізаляваныя палаты, аддзяленні рэанімацыі і інтэнсіўнай тэрапіі і сродкі абароны для падрыхтоўкі да павелічэння колькасці выпадкаў інфекцыі.

Працуючы як адзіная каманда, агенцтва ААН, фонды і праграмы сістэмы развіцця ААН у Беларусі адказваюць на запыты Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, нашых партнёраў у Беларускім Таварыстве Чырвонага Крыжа, а таксама іншых устаноў і арганізацый, якія супрацьстаяць COVID-19 на перадавой і забяспечваюць догляд і падтрымку найбольш уразлівых груп насельніцтва.

**Для ўсіх нас карціна ясная – COVID-19, як бязлітасны забойца, атакуе краіны і людзей. Вірус можа быць смяротны, нават калі вы маладыя і моцныя.**

На жаль, бывае і так, што вы не ведаеце, ці ёсць у вас вірус, але можаце быць яго носьбітам і распаўсюднікам.

**Няма нічога больш каштоўнага, чым жыццё.**

Няма нічога больш цяжкага, чым страціць членаў сям'і, сяброў, калег ці сваіх суграмадзян.

Калі ласка, заставайцеся дома, каб спыніць COVID-19. Гэта дапаможа медыкам, прадпрыемствам і супрацоўнікам экстранных службаў выконваць сваю працу і спраўляцца з крызісам.

**Паведамленне Пастаяннага каардынатара ААН у Беларусі.**



Пастаянны каардынатар ААН у Беларусі Іаана Казана-Вішнявецкі.

**– Калі ласка, заставайцеся дома, каб спыніць COVID-19. Гэта дапаможа медыкам, прадпрыемствам і супрацоўнікам экстранных службаў выконваць сваю працу і спраўляцца з крызісам.**

**Іаана Казана-Вішнявецкі.**

## Азёры на Мядзельшчыне зарыбілі карпам

У красавіку Нацыянальны парк «Нарачанскі» пры ўдзеле Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету зарыбіў адразу пяць вадаёмаў.

Гэта зробіць Нарачанскі край яшчэ больш прывабным для аматараў рыбнай лоўлі, кажуць у інспекцыі.

17 красавіка карпам-двухгадовікам агульнай вагой 2960 кілаграмаў зарыбілі возера Свір. У Белае запусцілі 500 кілаграмаў і Вішнеўскае – тысячу.

А 22 красавіка парк «Нарачанскі» папоўніў азёры Кузьмічы і Лотвіны карпам-двухгадовікам агульнай вагой 300 і 250 кілаграмаў адпаведна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На аўкцыёне купілі два будынкі, што належалі вілейскаму каледжу

24 красавіка камітэт «Мінаблмаёмасць» правёў аўкцыён па продажы нерухомасці, што належала Вілейскаму дзяржаўнаму каледжу.

Два будынкі, якія не выкарыстоўваліся, размешчаныя ў вёсцы Камарова Мядзельскага раёна. Іх ужо неаднаразова выстаўлялі на продаж.

Будынак кафэ-бара «Вітраж» агульнай плошчай 585,9 квадратнага метра 1960 года пабудовы ў выніку таргоў прадалі за 7 489 рублёў. Прадпрымальнік плануе адкрыць тут пункт грамадскага харчавання з кулінарыяй і сыраварняй.

Двухпавярховы будынак былога навучальнага корпуса ліцэя агульнай плошчай 2 250,3 квадратнага метра пакупнік набыў за 31 рубель. Новы ўласнік плануе размясціць тут аб'ект аздараўленчага прызначэння.

## Лепшыя юныя пісьменнікі жывуць у Свіры. Падвялі вынікі літаратурнага конкурсу

Падвялі вынікі інтэрнэт-галасавання Рэспубліканскага інтэрнэт-конкурсу літаратурных работ «Зямля пад белымі крыламі», прысвечанага 90-годдзю Уладзіміра Караткевіча, паведамляюць у галоўным упраўленні адукацыі Мінаблвыканкама.

У конкурсе ўдзельнічала 114 літаратурных твораў, напісаных юнымі паэтамі і празаікамі Беларусі. У выніку інтэрнэт-галасавання пераможцамі рэспубліканскага конкурсу сталі шэсць удзельнікаў. Сярод іх – вучні з Мядзельшчыны.

Гэта **Лізавета Дубіна**. Яна перамагла ў намінацыі «Лепшы вершаваны твор» (катэгорыя 11-13 гадоў). І **Глеб Рыбалт**, які перамог у намінацыі «Лепшы празаічны твор» (катэгорыя 8-10 гадоў). Абое ўдзельнікаў са Свірскага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад – сярэдняя школа.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Нарацкі школьнік пераможца у краязнаўчым конкурсе

Першае месца заняла навукова-даследчая работа вучня 10 «А» класа Нарацкай СШ №2 **Ігната Малько** «Пошук артэфактаў вузкакалейнай чыгункі Нарач–Лынтупы» на конкурсе «Скарбонка краязнаўчых знаходак».

Накіроўвала працу хлопца настаўніца гісторыі і грамадазнаўства **Святлана Гатоўка**.

**Паводле narachanka.by.**

# Як зберагчы псіхіку ў пандэмію

**Пра тое, як перажыць перыяд пандэміі самім і дапамагчы блізкім, распавёў загадчык Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера Аляксандр Бажко.**



Фота забяспечана Аляксандрам БАЖКО.

Пандэмія – перыяд, калі можна паспець зрабіць тое, што даўно не паспявалі.

### Ці павялічылася колькасць зваротаў у ПНД ад пачатку пандэміі?

Лічыцца, што колькасць псіхічных захворванняў у свеце – стабільная лічба. Паводле звестак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, 12-15% ад агульнай папуляцыі ў любой краіне маюць такое расстройства. І гэты працэнт застаецца такім жа ў любы час – і ў час вайны, і ў перыяд дабрабыту. Вясной і восенню колькасць людзей, якім патрэбная псіхіятрычная дапамога, павялічваецца. Цяпер колькасць зваротаў вырасла, але ў параўнанні з вёснамі папярэдніх гадоў гэта прыкладна такія ж лічбы.

А вось складнік расстройства можа мяняцца ў залежнасці ад сацыяльна-эканамічных ці іншых знешніх фактараў. Да нас сталі часцей звяртацца людзі з дэпрэсіўным і трывожна-дэпрэсіўным расстройствам, былі выпадкі зваротаў і з брэдавым расстройствам, у аснову якога лягла сітуацыя з каранавірусам – некаторыя моцна трывожацца. Эпідэміялагічна небяспечная сітуацыя парадзіла расстройства, якое замінае жыць.

### У час пандэміі можа ўзнікнуць адчуванне, што жыццё не ў тваіх руках, ты ім не распараджаешся напоўніцу. Як з гэтым спраўляцца?

Чалавек перажывае негатыўныя эмоцыі – трывогу, неспакой, страх за ўсё і за ўсіх, і гэтыя эмоцыі апрадмечаныя ў каранавірусе. Трывога – базавая абарончая функцыя нервовай сістэмы. Калі ўзнікае сітуацыя нявызначанасці, узнікае трывога. Яна можа ўзмацняцца і перарастаць у нешта больш сур'ёзнае, калі ўзмацняецца нявызначанасць. Калі, разумеючы гэты механізм, мы запаўняем пустату, то фізіялагічна і псіхічна арганізм не мае магчымасці панікаваць.

Таму ва ўмовах існуючай сітуацыі неабходна мець інфармацыю, як гэта перажыць. Калі ты сітуацыю, што адбываецца, бачыш і разумееш, то нявызначанасць знятая, і чалавек ведае, што рабіць. Калі чалавек атрымлівае інфармацыю ў тым ліку з прэсы, важна абіраць правераныя і аб'ектыўныя крыніцы, я рэкамендую рэсурсы Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Так чалавек атрымлівае інфармацыю, разумее, што адбываецца, і не мае прычын для трывогі.

Адной інфармацыяй не запоўніш пустату, калі, напрыклад, перайшоў на працу на адлегласці. У такіх выпадках з'яўляецца больш свабоднага часу, чым звычайна. Калі не ведаеш, чым заняць, зноў жа з'яўляецца трывога і пустата. Гэты свабодны час – унікальная магчымасць заняцца тым, што даўно адкладаў. Я вось дома малюю другую карціну па нумарах. Хобі, цікавы занятак, пачытаць кнігу, пакапаць градкі, пафарбаваць сцяну, зрабіць рамонт – усё гэта добра спрацуе. Запаўняючы свабодны час любімым заняткам або тым, што прыносіць задавальненне, мы не толькі бавім час з карысцю, але і праводзім прафілактыку супраць кепскіх эмоцый.

### Калі нехта ў сям'і або калектыве паддаецца паніцы, як яму дапамагчы?

Трэба зразумець, што падаграе яго рэакцыю. Аналізуючы тое, што назіраю ў сваёй практыцы – хтосьці можа начытацца тэлеграм-каналаў, дзе нагнятаецца так, што чалавек гатовы труну на ўсялякі выпадак купіць. Таму трэба знайсці крыніцу, якая падагравае трывогу, і мінімізаваць кантакт з ёй. Можна на нейкі час адключыць інтэрнэт, напрыклад.

Калі вы хочаце дапамагчы чалавеку, які паддаецца паніцы, з ім трэба паразмаўляць адзін на адзін, без астатніх членаў сям'і або групы. Панікуючы, можна заразіць і іх трывожнымі думкамі. Пры размове вочы ў вочы найлепш фарміруецца кантакт, і гэта спрые спакойнай атмасферы. У такой абстаноўцы людзі лепш успрымаюць думкі адзін аднаго.

Добры спосаб – папіць заспакаяльнай гарбаты, напрыклад, мятнай. Можна зрабіць мятнае чаяванне сямейнай традыцыяй.

Калі чалавек у дрэнным стане, ёсць стандартны алгарытм, як яго супакоіць – цёплы плед, па магчымасці, і цёплыя шкарпэткі, кубак гарачага чаю або гарбаты. Гэта дае адчуванне камфорту і бяспекі. Праводзіць гутарку, каб супакоіць чалавека, лепш ва ўмовах, калі вы трымаецеся такой атрыбутыкі.

### Як могуць падтрымліваць сацыяльныя кантакты адзінокія людзі ва ўмовах пандэміі?

Адзінота – гэта не проста стан або статус. Гэта выбар чалавека. Многія скардзяцца, што ім ніхто не дапамагае. Але калі ты хочаш атрымаць дапамогу, то неабходна заявіць пра патрэбу, папрасіць дапамагчы. Каб атрымаць вынік, трэба штосьці для яго зрабіць. Таму калі чалавек адчувае адзіноту, разумее, што яму кепска, варта ўсвядоміць, што гэты стан залежыць і ад яго.

Цяпер ёсць вельмі шмат анлайн-семінараў – як карыстацца інстаграмам, зрабіць стол, вышываць. Такім чынам вы вучыцеся новаму і атрымліваеце сацыяльныя кантакты.

**Калі чалавеку кепска, ён заўсёды можа звярнуцца па тэлефоне даверу. Тэлефон даверу псіхалагічнай службы ў Маладзечне (8-0176) 74-66-20, час працы ад 8:00 да 17:00. Тэлефон даверу службы экстраннай псіхалагічнай дапамогі ў Мінску (8-017) 202-04-01, працуе кругласутачна.**

### Як дапамагчы медыкам

Вядзецца работа па арганізацыі лініі псіхалагічнага кансультавання для медыцынскіх работнікаў. У бліжэйшы час яна запрацуе.

Ёсць асаблівасць працякання трывожнай рэакцыі ў медыцынскіх работнікаў. І мы гатовыя дапамагаць з імі спраўляцца.

### Як зразумець, што блізкі не спраўляецца і яму варта звярнуцца да спецыяліста

Калі ты ведаеш чалавека, то бачыш, якія яго паводзіны звычайныя. Раптам адбываецца рэзкая перамена, якая доўжыцца працяглы час. Калі вы даражыце чалавекам і хочаце пра яго паклапаціцца, то задайце пытанне: «У цябе нешта адбываецца? Я магу нечым дапамагчы?»

Калі чалавек мае псіхалагічны дыскамфорт, то ў яго два пасылы: нічога не гаварыць і варыцца ў сабе, а другі – крык душы «Ну, дапамажыце хто-небудзь». Людзі пасля спроб суіцыду расказвалі, што вельмі чакалі, каб хоць хто-небудзь праявіў клопат.

Пасля вашага пытання чалавек, з якім, па вашым меркаванні, штосьці не так, можа адказаць. Або сказаць, што ўсё ў парадку, або падзяліцца праблемай. У адказ варта выказаць эмацыйныя адносіны – «Я за цябе хвалююся». За гэтым важна прапанаваць выхад. Можна сказаць: «Я чытаў, што такое бывае. І там была рэкамендацыя ў такіх выпадках званіць на тэлефон даверу». Другі варыянт: «Я чую, што гэта можа быць прыкметай дэпрэсіі. Хочаш, я разам з табой схаджу да спецыяліста?». Так вы падкажаце алгарытм дапамогі.

### Калі ва ўмовах пандэміі немагчыма зрабіць пахаванне блізкага такім, як хацелі, як развітацца з чалавекам?

Зрабіць усё правільна ў жыцці немагчыма. Рана ці позна можам адчуць, што штосьці не дадалі – любові, клопату або ў апошні шлях адправілі не так, як мае быць.

Смерць і страта павінны вучыць таму, што трэба клапаціцца пра жывых. Таму, хто сышоў, немагчыма даць больш, чым даў падчас яго жыцця. Таму на вагах павінны перамагчы клопат пра жывых. Паказаць свае адносіны да памерлага можна будзе пасля. Паставіць помнік, наведваць магілу. Калегі, якія працуюць за мяжой, расказвалі пра досвед правядзення пахавання па скайпе. Гэта магчыма арганізаваць і ў нас.

Для некаторых можа быць важным правесці ўнутраны дыялог з вобразам чалавека. Веруючыя людзі могуць выканаць рытуалы, памаліцца. Такая размова – гэта правільна і сапраўды дапаможа развітацца.

**Размаўляла Зоя ХРУЦКАЯ.**

Больш інфармацыі вы можаце атрымаць на сайце Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера mpnd.by, а таксама ў інстаграм mpnd.by.

## Як аблегчыць перыяд пандэміі

У многіх рэакцыя на такую перамену ў жыцці – стрэс. Задача – перадолець стрэс як мага хутчэй і з найменшымі стратамі. Для гэтага дапамогуць наступныя рэкамендацыі:

1.) Падтрымлівайце як мага больш кантактаў з людзьмі. Сучасныя сродкі сувязі ў гэтым вельмі дапамагаюць.

2. ) Галоўная каштоўнасць – гэта здароўе. Таму варта прытрымлівацца здаровага ладу жыцця, гэта асабліва актуальна цяпер. Харчуйцеся правільна і па рэжыме, высыпайцеся, прымайце вітамінныя комплексы, не забывайце пра фізічныя нагрузкі.

3.) Пазбягайце табакакурэння і алкаголю, яны не дапамагаюць выходзіць са стрэсу.

4.) Своечасова звяртайцеся па медыцынскую дапамогу. Яе можна атрымаць па тэлефоне.

5.) Атрымлівайце інфармацыю ад правераных крыніц. Абмяжуйце час, які праводзіце ў сацыяльных сетках.

6.) Калі працуеце з дому, выберыце рытуал пераключэння з рабочага рэжыму на дамашні – душ, фізічныя практыкаванні або нешта іншае.

7.) У асабістых адносінах падтрымлівайце зацікаўленасць партнёра да вас.

8.) Знайдзіце свой спосаб рэлаксацыі – музыка, танцы, медытацыя, малітва.

9.) Захоўвайце спакой.

10.) Будзьце адказныя ў адносінах да сябе, клапаціцеся пра сябе і сваіх блізкіх.

У сучасным свеце мы перанасычаныя лішняй інфармацыяй. Часам, каб знайсці патрэбную кнігу ці фільм, мы губляем не адзін вечар. Таму вырашылі рабіць падборкі самых вартых твораў мастацтва, каб нашы чытачы маглі знайсці ў іх падказкі.

Гэта могуць быць кнігі, фільмы, серыялы, музыка ці карціны. Важна, каб гэта былі сапраўды вартыя ўвагі творы. Каб вы, вярнуўшыся з работы дамоў, ведалі, як з карысцю можна бавіць вечар.

# Таршэр



Героямі гэтай рубрыкі мы запрашаем нашых чытачоў і герояў публікацый. Яны выбіраюць свой спіс і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

# Калі на мяне зваляцца з неба грошы, экранізую Караткевіча

**Максім Міхайлавіч Чарняўскі – археолаг і кандыдат гістарычных навук, мае мядзельскія карані. Ён працуе ў Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Мы запрасілі яго стаць госцем рубрыкі «Таршэр».**

**Толькі з вуснаў бацькоў ведаю смешны выраз, якім Уладзімір Сямёнавіч «узнагародзіў» малога непаседу, які расквасіў у яго дома сувенірную парцэлянавую статуэтку: «Пришёл, увидел, навредил!».**

Па працы даводзіцца даволі шмат чытаць прафесійнай літаратуры, люблю сачыць за тым, што адбываецца ў свеце. Пераважна праз адносна разнастайны сяброўскі ліст у «Фэйсбуку», а таксама праз фізічныя кантакты з сябрамі і знаёмымі.

Адпаведна цяпер не маю часу, а часта і ахвоты чытаць нешта сур'ёзнае ў вольны час. Таму апошнім часам часцей падкідваю нешта на ўзроўні «жуйкі для мозга», каб адключыцца ад паўсядзённасці, альбо перачытваю ўжо вядомыя любімыя рэчы.

## 1. Уладзімір Караткевіч

З беларускіх аўтараў самым улюбёным з'яўляецца Уладзімір Караткевіч, з якім я быў фактычна знаёмы. Хоць праз сваё малалецтва на той момант гэтага зусім не памятаю.

Сярод фаварытаў – «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Сівая легенда», «Ладдзя Роспачы». Гэта той гістарычны рамантызм, які адгукаецца ў кожным куточку маёй душы. Вельмі часта, у розных жыццёвых сітуацыях як іх ілюстрацыя, прыходзяць у галаву цытаты акурат з Караткевіча. У студэнцтве нават мара такая была – як раптам зваляцца на мяне з неба грошы, то абавязкова ўкладу іх у галівудскую экранізацыю «Сівой легенды» – гэта ж можна атрымаць фільм пакруцей за «Храбрае сэрца»!

## 2. «Зверабой» Джэймса Купера

З юнацтва любіў рамантычна прыгодніцкі кірунак. Зачытваўся Джэймсам Куперам, асабліва запомніўся «Зверабой». Галоўнага героя твора я юнаком перыядычна спрабаваў капіраваць па паводзінах.

## 3. «Уладар Пярсцёнкаў» Толкіна

Пасля быў перыяд Толкіна, трылогіі «Уладар Пярсцёнкаў», якая чыталася і перачытвалася спачатку ў разнастайных рускамоўных перакладах, у арыгінале і ў шыкоўным перакладзе на беларускую мову.

## 4 і 5. Буджалд і Уэбер

Паралельна існаваў інтарэс і да навуковай і прыгодніцкай фантастыкі. З найбольш паважаных аўтараў – Лоіс МакМастар Буджалд і Дэвід Уэбер. Сюжэты апошняга могуць падавацца часам занадта простымі, а героі – занадта правільнымі і загераічнымі, хоць у пэўных жыццёвых сітуацыях гэта якраз тое, што мне трэба, каб адключыцца ад рэальнасці. Лоіс МакМастар Буджалд, а найперш больш за 10 кніг яе сагі пра Фаркасіганаў – вельмі шыкоўны сусвет.

Як я часта кажу, апісваючы гэтыя цыкл – замяніце планеты на кантыненты і выспы, касмічныя караблі на каравэлы, футурыстычную зброю на стальныя клінкі і крамянёвыя мушкеты – і ўсё адно ад сюжэта будзе не адарвацца. Бліскучыя героі, блізкасць іх да чытача, адсутнасць штучнай выкшталцонасці і лоску, сюжэты, шыкоўны гумар – усё гэта прымушае раз-пораз вяртацца да ўлюбёных месцаў і перачытваць іх наноў.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота забяспечана Максімам ЧАРНЯЎСКІМ.



Кучук гуляў і трэніраваў ФК «Маладзечна».

Фота realfootball.com.

# Леанід Кучук стаў трэнерам мінскага «Дынама»

**У сярэдзіне красавіка ў мінскім «Дынама» змяніўся галоўны трэнер. 22 красавіка замест Сяргея Гурэнкі трэніравацца сталічны клуб прызначылі Леаніда Кучука. На пачатку 1990-х Кучук гуляў за «Маладзечна», а потым і трэніраваў маладзечанскую каманду.**

## Гуляў толькі ў Беларусі

Кучук гуляў на пазіцыі абаронцы. Пачынаў футбольную кар'еру ў мінскім «Тарпеда», затым у «Дынама». У 1979 годзе знаходзіўся ў складзе «бела-блакітных» у чэмпіянаце СССР, але не правёў за клуб ніводнага матча.

Ад 1980 да 1988 года гуляў за гомельскі «Гомсельмаш» у другой лізе. У гомельскай камандзе правёў 249 матчаў і забіў шэсць галоў.

Ад 1989 да 1991 года гуляў у клубе КІМ з Віцебска. За каманду згуляў 101 матч і забіў адзін гол. У 1990 годзе працаваў трэнерам у гэтым клубе.

**Ад 1992 да 1994 года гуляў у ФК «Маладзечна». Кучук правёў за маладзечанскую каманду 61 гульню і адзначыўся двума мячамі.**

У двух наступных сезонах – 1995-1997 гадах – гуляў за «Атаку-Аўру»: 16 матчаў і адзін гол. Завяршыў кар'еру ў клубе «Дынама-93» у 1998 годзе, за які выступіў у трох гульнях.

## Выводзіў каманды ў еўракубкі, судзіўся з «Лакаматывам»

Першыя крокі ў трэнерскай кар'еры зрабіў у 1990 годзе, калі ўзначальваў віцебскі клуб «КІМ». Аднак сур'ёзная кар'ера ў Кучука пачалася толькі ў 1998 годзе. У гэтым жа годзе ў дзвюх гульнях кіраваў мінскім «Дынама-93», але абедзве гэтыя гульні прайграў з агульным лікам 0:8. У тым жа годзе ўзначальваў ФК «Маладзечна». Каманда ў выніку заняла перадапошняе 14-е месца ў чэмпіянаце Беларусі. У 2003 годзе працаваў старшым трэнерам у мінскім «Лакаматыве».

У 2004 годзе атрымаў прапанову з-за мяжы. Ад 2004 да 2010 года трэніраваў малдаўскі «Шэрыф». З «Шэрыфам» Кучук шэсць разоў стаў чэмпіёнам Малдовы, тройчы стаў уладальнікам Кубка і Суперкубка Малдовы.

У 2010 годзе адзін сезон працаваў з сербскім «Салютам», але не дамогся з клубам выдатных вынікаў. Кучук сам падаў у адстаўку з пасады галоўнага трэнера.

**Наступным клубам беларускага трэнера стаў кіеўскі «Арсенал». Разам з Леанідам Кучуком каманда ўпершыню выйшла ў еўракубкі.**

З-за фінансавых праблем клуб скараціў бюджэт, а Кучук разарваў кантракт па ўзаемнай згодзе.

У 2013 годзе трэнер трапляе ў чэмпіянат Расіі. Кучук узначаліў «Кубань», вывеў яе на пятае месца ў першынстве і ўпершыню ў еўракубкі. Клуб хацеў падпісаць кантракт з Леанідам на тры гады, аднак ён сышоў з пасады.

У тым жа годзе ўзначаліў маскоўскі «Лакаматыў». У сезоне-2013/14 «Лока» фінішаваў на трэцім месцы і стаў бронзавым прызёрам упершыню з 2006 года. Перад сезонам-2014/15 лідары каманды **Мубарак Бусуфа** і **Ласана Дыяра** з-за канфлікту з Кучуком самавольна пакінулі каманду. З пачаткам сезона сітуацыя ў камандзе працягвала пагаршацца, а трэнер адкрыта канфліктаваў з усімі футбалістамі каманды. Пагасіць канфлікт не ўдалося, і на фоне рэзкага падзення вынікаў Кучука адхілілі ад працы. «Лакаматыў» не жадаў плаціць кампенсацыі і ў аднабаковым парадку скасаваў кантракт з трэнерам з-за прагулу трэніроўкі. Кучук паказаў відэазапіс, з якога вынікае, што на трэніроўку яго не пусціла ахова. Прэзідэнт «Лакаматыва» **Вольга Смародская** назвала відэа пастановачным. Пасля звальнення Кучук падаў скаргу ў Расійскі футбольны саюз з патрабаваннем у кампенсацыі яму 4,86 мільёна еўра. Палата РФС па вырашэнні спрэчак у выніку вынесла рашэнне аб кампенсацыі ў памеры 1,8 млн еўра.

## Кучук у ФК «Маладзечна»

За маладзечанскую каманду Кучук пачаў гуляць тады, калі клуб называўся «Металургам». Каманда выступала ў вышэйшай лізе Беларусі, але вялікіх вышынь не дасягнула: 9-е месца ў двух сезонах разам з Кучуком у якасці гульца.

**Сяргей Бароўскі**, які трэніраваў тады маладзечанскую каманду, распавядаў у інтэрв'ю «Трыбуне», што Кучук быў заўсёды сканцэнтраваны і цалкам аддаваўся справе:

– Ён валодаў вялікім досведам, дапамагаў трэнерскаму штабу і на полі, і па-за полем, нешта падказваў маладым. Лідар, адназначна прафесіянал.

Футбаліст **Віталь Казяк** адгуляў з Кучуком у маладзечанскім клубе тры гады. Ён распавядаў «Трыбуне», што Леанід на той момант лічыўся ветэранам па футбольных мерках, але ўсё роўна выконваў працу на трэніроўках і на полі.

– Памятаю, мы раніцай у дзень гульні заязджалі на базу, а ён ужо там быў, самастойна рабіў зарадку, разміналася. Цалкам аддаваўся працы і патрабаваў гэтага ад іншых. Валодаў мужчынскім характарам. І нават калі да канца матча ўся каманда стамлялася, ён, сцяўшы зубы, працягваў гуляць на максімуме.

У тым калектыве гуляў і будучы двухразовы чэмпіён Беларусі **Фёдар Лукашэнка**, які таксама з задавальненнем успамінае час, праведзены з Кучуком.

– Я малады, «зялёны» прыйшоў са спартшколы, а ў ФК «Маладзечна» ўжо была пляяда ветэранаў, сярод іх Леанід, – успамінае Лукашэнка.

**– Гэта прафесіянал з вялікай літары. Калі ён рыхтаваўся да матчаў, вакол яго нават у паветры лунала невялікае напружанне. Кучук быў сабраны, сканцэнтраваны.**

У дзень гульні ні жартаў, ні ўсмешкі ад яго не дачакаешся. Ён знаходзіўся ў сабе, настройваўся на паядынак, рыхтаваўся.

Як распавядае Лукашэнка, Кучук быў сапраўдным рэжымшчыкам, які ніколі не дазваляў сабе нават на хвіліну спазніцца на трэніроўку. Пра алкаголь пасля матчаў гутаркі зусім не ішло.

– Трэнер дазваляў пасля гульні па адной-дзве бутэлечкі піва, тым больш калі вярталіся з выезду. Але Кучук ніколі не дазваляў сабе. Калі куплялі на каманду скрыню піва, сваё ён каму-небудзь заўсёды аддаваў, – дзяліўся Лукашэнка. – Пры гэтым ён ніколі не быў адзіночкай. Заўсёды з калектывам, паводзіў сябе адэкватна, мог падтрымаць любую размову. Быў лідарам нашай каманды. Ды і як па-іншаму, калі ён быў капітанам у матчах.

Падрыхтавала
Настасся УТКІНА.

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Тое, што і няміога.
4. Разьбяная або пафарбаваная планка, з якой робяць рамы, карнізы.
6. Вялікі музычны твор для аркестра.
9. У цёмны час сутак.
11. Тое, што і капялюш.
12. Густаватае духмянае рэчыва, якое мае ў сваім складзе смолы, эфірны алей і іншыя кампаненты і выкарыстоўваецца ў тэхніцы, медыцыне і парфумерыі.
13. Трэшчына ў зямной кары, запоўненая горнай пародай, а таксама сама горная парода ў такой трэшчыне.
14. Раздзел кнігі, артыкула, абазначаны нумарацыяй або загалоўкам.
15. Слуга, выязны лакей часоў прыгоннага права.
17. Забаўная выхадка, востры дасціпны выраз.
18. Паглыбленне ў сцяне для змяшчэння там чаго-небудзь.
20. Орган мочавыдзялення ў чалавека і пазваночных жывёл.
21. Адсутнасць сродкаў для жыцця; крайняя беднасць.
22. Трубчасты орган у целе чалавека ці жывёлы, па якім цячэ кроў або лімфа.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Прылада, якой сякуць і склюдуюць, у выглядзе насаджанага на тапарышча шырокага прадаўгаватага кліна з лязом з аднаго боку і абухом з другога.
3. Парадкавы лік прадмета ў радзе яму падобных.
4. Дакумент, які дае права праезду, уваходу, карыстання.
5. Шматструнны шчыпковы музычны інструмент славянскіх народаў.
7. Ручны млын, які складаецца з двух гладка абчэсаных круглых камянёў, пры дапамозе якіх зерне пераціраецца на муку.
8. Гадавіна дзейнасці або існавання, якая вылічваецца звычайна дзесяцігоддзямі, стагоддзямі і ўрачыста адзначаецца грамадскасцю.
10. Суп з вэнджанінай.
12. Тонкае ліставое жалеза.
15. Пляцоўка ў садзе, скверы, перад домам, засеяная травой, засаджаная кветкамі.
16. Той, хто засноўвае што-небудзь або дае грошы на заснаванне.
17. Від выяўленчага мастацтва, які перадае прадметы і з'явы навакольнага свету пры дапамозе фарбаў.
19. Сукупнасць вытворчых адносін пэўнага грамадскага ладу, якія адпавядаюць развіццю прадукцыйных сіл грамадства.
22. Невялікі, звычайна квадратны, кавалак тканіны або паперы, якім карыстаюцца, каб засцерагчы вопратку ў час яды, у цырульнях.
23. Метад даследавання, пры якім асобнае, прыватнае пазнаецца на аснове ведання агульнага; процілеглае індукцыя.

### Адказы на крыжаванку з №17

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Чэмпіён. 4. Дужы. 5. Варыянт. 7. Тавар. 8. Тархан. 9. Вакансія. 11. Выпадак. 12. Мара. 13. Маршрут. 14. Трывога. 15. Чужак. 18. Манцэвіч. 20. Дыялект. 21. Часнок.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Дэмакратыя. 3. Вандалізм. 6. Мармур. 10. Мінус. 11. Варажба. 13. Медаль. 15. Чапяла. 16. Чыгунка. 17. Таўкач. 19. Дасведчаны. 22. Эліны. 23. Тропік.

## ГАРАСКОП НА 1-7 МАЯ

**АВЕН.** Вас можа падводзіць эмацыйнасць. Старайцеся на ўсё рэагаваць спакойна, менавіта такі стан дапаможа пераадолець з лёгкасцю любыя неспадзяванкі. Пазбягайце крыніц негатыўнай інфармацыі і парайце блізкім ісці вашым шляхам.

**ЦЯЛЕЦ.** Самае важнае, што вам цяпер трэба, – блізкія і дарагія сэрцу людзі. Важна падтрымаць кантакт з настаўнікамі, былымі калегамі, вашым аўтарытэтам. Менавіта з імі можна падзяліцца апасеннямі і атрымаць ад іх падтрымку.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вам захочацца сябе папесціць і дазволіць тое, што раней не дазвалялі. Пастарайцеся быць эканомнымі, але ў чымсьці ўсё ж дазвольце сабе радасць. Магчыма, гэта звязана з вашым хобі або проста кніга, пра якую даўно марылі.

**РАК.** Важна захоўваць тактоўнасць і ветлівасць у размовах з іншымі. Не імкніцеся кагосьці абысці або паказваць сябе лепшым, чым вы ёсць. Да прыемных людзей і іншым хочацца быць прыемнымі і дапамагаць, калі ёсць патрэба.

**ЛЕЎ.** Важна выдзеліць час на тое, каб пабыць сам-насам. Прыслухайцеся да сябе, сваіх жаданняў, інтуіцыі. Гэта дапаможа зразумець, дзе ваша крыніца маральнай падтрымкі, якой не хапае. Смела звяртайцеся па дапамогу.

**ДЗЕВА.** Надзвычай важным будзе адчуць, што вам ёсць на каго разлічваць. Прычым як дома, так і ў працоўным калектыве. Вы пераканаецеся, што сярод вашых знаёмых ёсць надзейныя сябры і калегі, якія выручаць у любой сітуацыі і для якіх ваш дабрабыт вельмі важны.

**ШАЛІ.** Спатрэбіцца трымацца балансу паміж працай і домам. Пастарайцеся трымацца графіка і размяркоўваць час, каб хапала для кожнага з гэтага сектара. Магчымыя канфлікты, пастарайцеся разабрацца ў прычынах і памятайце, што ў любой сітуацыі важна сярод людзей заставацца чалавекам.

**СКАРПІЁН.** Добры час для пераможу і ўвогуле магчымасць атрымаць жаданае. Варта пазбягаць непрадказальных суразмоўцаў і партнёраў, сумесныя праекты могуць пачаць працу не такім чынам, які вы планавалі.

**СТРАЛЕЦ.** Магчыма, вы адчуеце жаданне падзяліцца дабротамі або паўдзельнічаць у дабрачыннай акцыі. Калі ў вас з'явіцца такое жаданне, пашукайце, як яго ўвасобіць. І ўбачыце, як яно палепшыць вам настрой.

**КАЗЯРОГ.** Імкніцеся ў размовах з людзьмі праяўляць эмпатыю. Цаніце пачуцці і перажыванні іншых, старайцеся падтрымліваць іх і па-сапраўднаму выслухайце. Часам гэтага дастаткова, каб моцна дапамагчы суразмоўцу.

**ВАДАЛЕЙ.** Будзе шмат звычайных задач, ад выканання якіх вы можаце нават засумаваць. Затое кіраўніцтва дакладна заўважыць поспехі. Узнагарода прыйдзе, калі ў вас хопіць цярпення пачакаць.

**РЫБЫ.** Вам захочацца даць волю фантазіі. Паспрабуйце сябе ў творчасці, асабліва на карысць пойдзе новы занятак ці тое, чым даўно не займаліся. Уключыце любімую музыку і дайце сабе магчымасць проста памарыць.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 5 | 7 | | | | 1 | | |
| 4 | 8 | 3 | | | | 2 | | |
| | | | | | 4 | | 6 | 8 |
| | 1 | | 9 | | 7 | | | |
| | | | 6 | 3 | | 5 | | |
| | | 6 | | 8 | | 9 | | 4 |
| | | 8 | | 1 | | 7 | | |
| 3 | | 2 | | 9 | | | | |
| | | | | | 8 | | 5 | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



Рэгіянальная газета. Rh.by



● #РГ25

# Моладзевая арганізацыя NSNL: «З днём народзінаў, даражэнькая газета!»

Моладзевая арганізацыя NSNL віншуе «Рэгіянальную газету» з 25-годдзем. Мы вельмі даражым тым, што вы заўжды з намі. Дзякуем за тое, што вы былі на нашых святах і імпрэзах, расказвалі пра нас і нашы ініцыятывы гараджанам. За мінулы год вы асвяцілі будаўніцтва і адкрыццё вуліцы стрыт-фуда, святы двара, развіццё інклюзіўнага грамадства, фестываль «Прышчэпка». Мы вельмі вам удзячныя за ўдзел і падтрымку нашай экалагічнай ініцыятывы.

І таму мы вам гаворым «шчыры дзякуй» і ад усяго сэрца жадаем, каб жыхары рэгіёна з нецярпеннем чакалі выхад кожнага нумара «Рэгіянальнай газеты», як чакаем яго мы.

І кожны сябар нашай каманды жадае вам наступнага:

**Ганна Холад** – паспяховага супрацоўніцтва і новых крэатыўных праектаў.

**Ірына Тархан** – добрасуседства.

**Ганна Сафонава** – чыстага неба.

**Марыя Калеснікава** – інклюзіўнай суполкі.

**Юлія Башынская** – творчага патэнцыялу і высокага майстэрства.

**Ганна Кішкурна** – шмат вандровак.

**Арына Тархан** – яскравых уражанняў і цікавых фотаздымкаў.

**Вольга Дашкевіч** – больш праглядаў у сацсетках.

**Таццяна Семашкевіч** – рэспубліканскага ахопу.

З днём народзінаў, даражэнькая газета!



***

**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**

**А таксама пасціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!**

## Чытайце праз тыдзень:

- Якія вакансіі ва ўмовах пандэміі прапануюць ва ўстановах і на прадпрыемствах у Смаргоні, Ашмянах, Астраўцы?

## 2 мая, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 3-4 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -3,9°С у 1971 годзе
Максімальная тэмпература +27,6°С у 1977 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 20,1 мм у 1978 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Якія ў вас планы на майскія выхадныя?



**Леанід Мароз, пенсіянер, Даўгінава, Вілейскі раён:**

– Займацца пчальніком, хутка ўсё зацвіце. Вясновы дзень год корміць.



**Вольга Петрусевіч, начальнік аддзела кадраў, Маладзечна:**

– На святы хацела б сустрэцца са сваімі роднымі. У майго таты 30 красавіка дзень нараджэння. Але сітуацыя з COVID-19 не дае нам гэта зрабіць. Паедзем усёй сям'ёй на дачу, бліжэй да прыроды. Будзем і працаваць, і адпачываць, і дыхаць свежым паветрам.



**Валянціна Грывусевіч, вартаўнік, Маладзечна:**

– Працую 1 і 2 мая. А так можна было б і да мамы з'ездзіць у вёску, але працую па графіку.



**Таццяна Філістовіч, сацыяльны работнік, Маладзечна:**

– Буду сядзець дома.



**Павел Карповіч, вартаўнік на заводзе, Маладзечна:**

– Буду садзіць бульбу ў вёсцы. Яшчэ я за тое, каб дзеці не хадзілі ў школу да канікулаў, і супраць парада.



**Таццяна Машонская, кантралёр цеплавой вытворчасці ў ЖКХ, Даўгінава, Вілейскі раён:**

– Праведу выхадныя дома. Сяброў у госці не чакаю з-за каранавіруса. Шматлікія мае знаёмыя вельмі баяцца яго. Калі разносіла жыроўкі, то сын адной старэнькай жанчыны сказаў мне, каб я не падыходзіла да іх дома.



**Ігар Лабанаў, электраманцёр, Маладзечна:**

– Паеду з сям'ёй у вёску на шашлыкі.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№18 (1305) 1.05.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 723. Падпісана ў друк у 9.00 30.04.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.